№ 20. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 20 (112). Год II. Вільня, 9 марца 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Граф Цэппэлін памёр

### 8 марца.

**Заходні тэатр:**

У Шампаніі заўзяты артылерыйскі агонь. Іншые фронты, — пры туманнай пагодзі і сьнежных завеях, на агул, — спакойны.

Пры разведках, між Соммай і Оар ўзята 17 англійцоў і францу зоў ды кулемёты.

**Усходні тэатр:**

Без выдатнай баевой дзеяцельнасьці Між Вілейкай і Маладэчнам, ад скінутай бомбы, саскочыў з рэльсоў расейскі жалезнадарожны поезд.

*Македонскі фронт:* На поўнач ад возера Дойран патрульные сутычкі.

---

ЛОНДОН. Кабінэт міністроў учора займаўся ірляндскім пытаньнем, але не дайшоў да ніякай пастановы. Газэты сумневаюцца каб і сягоняшня гамонка у Ніжнай Палаці дайшла да скутку. „Times" паведамляе, што грамадзянство чэкае гамонкі з нейкім неспакоем.

ГААГА. Вертаючыеся з Англіі, праз Францію, падарожнікі кажуць, што перад гаваньню Толькестоне, у прошлым тыдні збіліся два англіцкіе мінаносцы, пры густым тумане і затапіліся.

БЭРН. Як паведамляюць с Хіассо, у Італіі ходзяць апошнімі часамі чуткі, што броненосец «Giulio Cezare» згінуў па ліхадзейству сваіх. Чуткі пакуль што епчэ ня сцьверджэны. Броненосец быў паёмнасьцю у 24.000 тонн. Ен пабудаваны 1913 гаду. Меў 13 гармат у 30,5 цэнт., 18 у 12 цэнт. і 20 у 7,6 цэнт., апрача таго тры торпэдные трубы. Залога складалася 981 чалавека.

КОПЭНГАГА. У пачатках студня, пры Порт-Саід, наскочыў на міну вялікі расейскі крэйсэр і затапіўся.

ПЕЦЯРБУРГ. «Рэч» паведамляе, што Амэрыка дастаўляла у Францію і Англію далёка болей ваенных матэр'ялоў як у Расею, хоць дастаўка і у Расею павялічылася, с 31 мільёна доляроў у 1914 гаду, да 313 мільёноў доляроў у 1916 г.

СОФІЯ. Уплыў падводнай вайны вельмі явен на македонскім фронце; відавочна недахват ваеннаго снарадзьдзя, здаецца, іграе выдатную ролю у перамене плянову Сарайля Між іншым, саюзьнікі раней пачыналі кожную атаку барабанным агнём, цяпер жаркі артылерыйскі агонь бывае рэдка.

БЭРЛІН. Розные ранічные газэты падаюць весткі, што Боўгарыя пераслала Амэрыцы ноту, якая павядзе да разрыву дыплёматычных стасункоў.

ПАРЫЖ. „Petit Parisien" паведамляе з Нь'ю-Іорку, што падводная вайна была толькі прычынай да разрыву Амэрыкі з Нямеччынай, праўдзіва-ж прычына гэтаго, то грашавая гаспадарка Амэрыкі. Адзін нь'ю-іорскі банкер сказаў карэспандэнту газэты: вашы цэнные паперы, маюць толькі вартасць пры пабедзі, саюзьнікі павінны у штоб-ністало пабядзіць, каб нам заплаціць. Цень амэрыканскаго капіталу стаяла за Вільсонам, калі ён загадаў аддаць даверчые граматы нямецкаму пaслу.

---

### З нашаго Краю.

«Neue Zürcher Zeitung» падае з «латышскіх крыніц», што у апошніе дзевяць месяцоў, за здраду пакарано сьмерцю 2.000 латышоў, гэто значэ два працэнты латышскаго насяленьня.

«Norddeutsche Allgemeine Zeitung» сцьвярджае, што папраўдзі ад 1 красавіка 1916 году за здраду па вінны былі быць прысуджэны на сьмерць, 132 латышы. С паміж іх 26 пакараны сьмерцью. Літоўская газэта, якая бытцым падавала названые цыфры, папраўдзі ніколі нічога падобнаго не пісала.

### З'езд у Штокгольмі.

Гэтымі днямі, у сталіцы Швэціі—Штокгольмі,—адбудзецца нарада з'езду прэдстаўнікоў паняволеных Расеей народоў. Гэто будзе чардны з'езд „Лігі абароны правоў чужародчых народоў Расеі". Склікае яго маршалак Лігі, барон фон Ропп. Ад нашаго краю на з'ездзі будуць дэлегаціі: беларуская і літоўская; Жыды і Паляки будуць мець сваіх прэдстаўнікоў на гэты з'езд з іншых краёў, стуль, дзе яны маюць, або спрадвечную сваю зямлю, або гусьцейшае сваё насяленьне.

Пасьля ноты Вільсона і адказу на яе саюзных дзержаў (Расеі, Англіі, Франції і інш.): у каторых была парушэна, між іншым і справа малых націй, нельга не прызнаць гэты з'езд Лігі патрэбным і своечасным.

Справа у тым, што у ноце сваей, да ваюючых дзержаў, Вільсон высказаў, што адзін з варункоў забаспечэньня на доўгіе часы згоды між дзержавамі, гэто устаноўленьне пасьля вайны ладу абапёртаго на прызнаньні усіх слушных правоў малым націям, нараўне з вялікімі. У атказ на гэто саюзные дзержавы сказалі, што яны, маўляў, і самі гэто ведаюць і самі кіруюцца да „вызваленьня Італійцоў, славяноў, Румыноў, Чэхоў і Славакоў с пад чужога панаваньня", ды „да вызваленьня народаў, што жывуць пад крываваі тыраніей Турэччыны".

Кажучы проста, бяз хітра мудрай крутні, саюзные дзержавы сказалі, што яны гатовы даць правы і абасьпечыць іх народам, якіе знаходзяцца не пад іхнім панаваньнем. Аб паняволеных і абезпраўленых народах Расеі, Англіі і Франції ціха і глуха.

Нічога дзіўнога, што пасьля гэткіх гутарак Урад Лігі чужародных народоў Расеі, пастанавіў склікаць з'езд, каб абгаварыць цяперашняе палажэньне справы абароны правоў малых націй і вырабіць плян працы на далей.

З дакладу нашай беларускай дэлегаціі ездзіўшай на другі з'езд Лігі, мы ведаем, што праца лігі шчырая, роўна прыхільная як да патрэб вялікіх, так і меншых націй, што кожны голас на з'ездзі будзе пачут і за кожную крыўду з'езд заступіцца, бо усімі справамі Лігі кіруюць выбраные ад з'езду ідэйные асобы.

Мы спадзяемся, што цяперашні з'езд дасць багата цікаваго аб ходзе справы абароны правоў паняволеных Расеей націй.

*Я. Гулевіч.*

### Праўда і крыўда.

Апаведае народная казка, што Праўда і Крыўда—родные сёстры. Праўда была добрая і лацьваверная, Крыўда завісьлівая і благая. Праўда была красуня на здзіў, Крыўда была непамерна брыдкая, І Крыўда выкалола вочы Праўдзе. параніла яе цело стараючыся зрабіць яе роўна брыдкой, як і сама была. Але Праўда хоць нявідушчай ды гожай і добрай асталася на векі. А Крыўда ад сьвету стваральня да нашых дзён крыўдзіць сваю сястру родную, здзекуецьць над добрай Праўдай, неславіць яеа адбірае ад яе, яе дабро, няволіць і прасьледуе.

І далей кажэ народная казка, што кожны чалавек, кожна старонка і народ, маюць сваю Долю і Нядолю, сваю Праўду і Крыўду.

Отжэ і наш народ гаротны мае сваю Праўду і сваю Крыўду. І Крыўда наша моц вялікую паняла над намі, а Праўда наша у загоне, у няволі у Крыўды.

Наша Праўда кажэ нам, што мы Беларусы, як і усякі іншы народ на сьвеці маем права да долі і волі, да навукі і сьветла, да становуленьня самім аб сабе, да кіраваньня самім справамі сваімі.

А Крыўда наша касьцістымі локцямі уперлася у карк нашаго беларускаго народу гняце і цісьне яго да зямлі прыгаварываючы: „не, гэтаму небываць!"

Я Крыўда запанавала над тваей доляй і воляй, плюю на тваю Праўду, на тваё горэ і сьлёзы. Глянь! я разселася за дзядоўпрадзядоў у тваей зямлі, запанавала тут крыўдамі і да канца дзён вашых буду вас крыўдзіць.

Праўда бунтуе вас падбіваючы шукаць шчасьця і долі. Спрабуйце, і вы наткніцёся на маю даўную і цяперэшнюю работу. Пакрываўце рукі і ногі, парвіце жылы і скарэй покне вам сэрцэ з натугі чым вырвецеся с цянёту маіх. О, я мудра і доўга працавала-гаспадарыла у вашай старонцы! Маімі рукамі і розумам перэтварыла я вашу шляхту у ворагіх чужакоў вашых, маімі рукамі я доўгіе сталецьця выцірала імя вашэ са страніц гісторыі, выкідаючы мову вашу з дзержаўнаго жыцьця, выпіхаючы яе са сьвятых і публічнаго ужытку. Я, Крыўда, завела на вашай зямлі, у школах мову чужую, каб дзеці вашы навучаючыся ачужаліся і пасьля адраджалі сваю бацькаўшчыну і вырэкаліся сваіх бацькоў і магіл дзядоў сваіх. Я, Крыўда, зрабіла што нават з Богам размаўляеце вы у чужой мове, у мове тых, каторые цікуюць на душу вашу. Я, Крыўда, накінула на вочы вашы цемнату, на сэрцы

**Усходні тэатр:**

Між Балтыйскім і Чорным морам, пры меншай сцюжы, у асобных часьцях фронту агонь ажывіўся. Праца пяхоты была невялікая.

*Македонскі фронт*: Паміж вазёрамі Вардар і Дойран і ў даліне Струмы нашы старожы адбілі напады англіцкіх рот.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА 5.III. **Усходні тэатр**: (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр**: На прыморскім фронці агонь артылеры і мінамётаў. быў ізноў байчэйшы. Вечэрам італьянцы асабліва заўзята абстрэлівалі Констаневічу; каля Дольё нашы патрулі уварваліся у варожый акоп, перэмаглі залогу і прывялі 10 палонных.

На тырольскім, усходнім фронце італьянцы атакавалі Ціма-Ді-Констабэльля і здолелі захапіць адну пярэднію пазыцію. Бітвы ідуць далей.

ВЕНА. 6.III. **Усходні тэатр**: (гл. нямецк. апавешч.).

**Італьянскі тэатр:** Крэпкая хляба перэшкаджала баявой дзеяцельнасьці і такжэ спынілі бітвы на поўнач ад Сан Пэлігрыно. Ноччу ізноў пачаўся мінны агонь проці нашых пазыцій пры Костабэльля. Спробы італьянскіх атак спынены нашым абаронным агнём. Варожы напад на Кольбрыкон адбіт ручнымі гранатамі. Сягоньня раніцай вораг зрабіў вялікі ўзрыў перад Монтэ-Сів, але нашы пазыціі не пашкодзіў.

ВЕНА. 7.III.. **Усходні тэатр**: (гл. ням. апав.).

**Італьянскі тэатр**: На тырольскім усходнім фронце, у аддзельных мейсцох фронту, бітвы былі нам прыяйны. Адна варажая кампанія,—што атакавала нас пры руччу Мрзо, — адбіта. Такжэ адбіты два начные напады на нашы пазыціі пры Костабэльля. Варажая спроба штурмаваць супроць Монтэ-Сэф зламалася пад нашым абаронным агнём. Італьянцы зрабілі там узрыў, але пашкодзілі не нашым, а толькі сваім пазыціям.

### З заходняго фронту.

БЭРЛІН Не глядзя на вялікіе сілы, англійцам ешчэ не удалося дабрацца да нямецкіх пазыцій пры Анкр. У гэтых бітвах, каля Гон-Кур, мы ўзялі ешчэ два кулямёты. 28 лютаго адбіты вялікіе англіцкіе штурмы пры Сайі, а 4 марца пры Бушавэн. Наступаўшые на шырыні двох кілёмэтроў, англіцкіе войскі былі з абодвых бакоў намі атакаваны і ізноў адкінуты. Пры Шылі, на палудзень ад Соммы, ўзяты два кулямёты. Пры наступленьні, пры дарозі Этэн—Вэрдэн, ўзяты ешчэ тры кулямёты. Пры Нідэрсбах і Аммэр-Цвайлёр ўзят адзін кулямёт і адзін мінамёт.

### Падводная вайна.

БЭРЛІН. У Сяродземным моры затоплено 8 паравых караблёў і 7 парусных, агульнай паемнасьцю болей 40 000 тонн. Паміж таварамі, якіе былі у іх, было: вугалья, вата, насеньне ваты, гэрбата, марожэнае мясо. Два с паміж затопленых караблёў былі ваенные транспорты.

ГААГА. Агульную паёмнасць затопленых у лютым караблёў аблічаюць на 700.000 тонн. Ад 15 студня да 15 лютаго затоплено 136 караблёў.

ЛОНДОН. У «Daily Telegr.» Гурд пішэ: Мы павінны лічыцца с праўдзівай небаспекай у найбліжэйшым часе. За тры месяцы вораг затапіў 500 караблёў. Калі лік нашых тарговых караблёў значна зменшыцца, то нашэ марское панаваньне кончыцца.

### Наскочыў на міну.

ЛОНДОН. Адміраліція паведамляе, што 4 марца затонуў брытанскі контр-мінаносец з усей залогай у Паўночным Моры. Карабель мабыць наскочыў на міну.

### Нямеччына і Мэксык.

БЭРЛІН. С прычыны раскрыцьця Амэрыкай перэгавороў між Нямеччынай і Мэксыкам, штат-сэкрэтар чужаземных спраў сказаў у нямецкім парлямэнце, што ён не шкадуе раскрыцьця Амэрыкай гэтых перэгавороў, бо гэто быў толькі акт самаабароны на выпадак вайны з Амэрыкай.

ВАШЫНГТОН. Раскрыцьце нямецкай прапазыціі Мэксыку, значна змоцніло пазыцію Вільсона. Падтрыманьне Брайнам палітыкі прэзыдэнта, паказывае, што стаўся паварот і ў кругах прыхільных згодзе.

НЬЮ ІОРК. Амэрыканскі „урад стараецца выясьніць спорные пункты з Японіей. Японскіе работніцкіе, арганізаціі будуць прызнаны у Амэрыцы; па прычыне гэтаго будзе ешчэ нарада у Японіі.

## Амэрыканскі крызыс.

ВАШЫНГТОН Вільсон у сваім маніфэсці, між іншым сказаў: „64-я сэссія конгрэсу, пры сваім закрыцьці, стаіць перад крызысам поўным ваенных небаспек. Наш край знаходзіцца у гэткім палажэньні, як ніколі не бывало у яго гісторыі. Конгрэс ня можэ абараніць краю, бо 11 сэнатароў прашкаджаюць сэнату закончыць свае нарады. Маленькая жменька людзей сільнай волі, шануюць толькі свае погляды і урад вялікай Амэрыкі зневажаюць.

Палажэньне шмат паважнейшае, як думаюць.

Ад самаго пачатку вайна налажыла кляймо на нашэ духовае жыцьцё, нашу прамысловасць, нашу таргоўлю і нашу палітыку. Мы цьвёрда стаім на уаружэнным нэўтралітэці, ўсё-ж можэ здарыцца, што мы прымушэны будзем чынна бараніць нашы правы і прыняць учасьце у вялікім змаганьні.

Мы вымагаем: 1) каб усе нациі сьвету мелі свой інтэрас пры згодзе і каб усе нациі у роўнай меры адказывалі за яго; 2) фактычнай роўнасьці усіх націй у дзержаўно-праўных пытаньнях· 3) каб правіцельствы мелі ўласьць са згоды кіраваных імі народоў; 4; каб моры былі аднака вольны і баспечны для ўсіх народаў; 5) каб уаружэньне народоў было скіравана да ўнутрэннаго спакою і дамовай баспечнасьці; 6) што абавязак кожнаго народу пілнаваць за тым, каб ўсякая спроба падтрымаць рэволюцію у другіх краёх, была срога і яўна недапушчэна.

### Чуткі с Кітаю.

ЛОНДОН. Згодна тэлеграме с Пэкіна, кітайскае правіцельство аднадушна высказалося у карысць разрыву дыплёматычных зносін з Нямеччынай. Прэзыдэнт Кітаю, аднача, ня згодзіўся з гэтым, апасьля чаго міністры падаліся у адстаўку.

## БЛОКАДА АНГЛІІ.

АМСТЭРДАМ. Бышый англіцкі тарговы міністр Рунсэман сказаў у выборным сабраньні, што увоз тавароў у Англію ад пачатку блокады гэткі малы, што урад павінен прызнаць, што Англія павінна здаволівацца толькі сваімі харчамі. Калі ня будзе павялічэн падвоз, то англіцкі народ у маі пачне галадоўлю і Англія будзе у тых самых варунках як і Нямеччына.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

### Вайна на паветры.

БЭРЛІН. Ясная пагода спрыяла дзеяцельнасьці лётчыкоў. У многіх заўзятых бітвах у паветры, мы скінулі 12 варажых самалётоў. На іншых фронтах ворагі стацілі ешчэ 6 самалётоў.

На ўсходзі мы абкідалі станцію Маладэчно 30 пудамі бомб.

На македонскім фронці нямецкая эскадра лятуноў абкідала варажые склады аммуніціі, на поўнач ад Салонік; відаць было нескольк і пажароў і ўзрывоў.

---

## ЖАРТЫ.

### Згаварыліся.

*Dzień dobry, mój kochany Janku!*
— Дабрыдзень!
*Ja słyšałem že jesteś polak?*
— Але, каталік.
*Nazwisko twoje Janie?*
— Не разбяру, мой пане...
*Nazwisko... to nazowa.*
— Які назола?
*Nno... može powiesz, jak się zowiesz?*
— А!... Гэтак пан казаўбы!
Паходжу з Дзяўбы.
А ца мянюшчы...
*Počekaj! po Moniušcy*
*Zostało plemię tu? Ty jesteś Moniuško?*
— А ёсць мянюшка...
*Sławetny pan z rodaka!*
*I može jaką*
*Operę pan napisał? I w ilu akty?*
*I w jakie takty?*
— Ах ты... Што стракочэш?
Чаго пан хочэш?
*Dla czgo-ž? Panžeś polak!?*
— Ну—ну, каталік!
*I gadasz že pan po polsku?*
— Я? Не, па свойску!..

*А. Г.*

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

### З Вільні і Віленскай губэрні.

### Табор для ваенна-палонных Strelkowo. Stammabteilung.

Block I.

Бартошэвіч Клемэнс, Легвятов.
Данкевіч Адольф, Углізма.
Элешкевіч Іван, Марыно.
Беляўскі Пётр, Шудэйкішкі.
Грудзінскі Ян, Солы.
Казлоўскі Мікіта, Галавачы.
Хартоновіч Сідар, Бабры.
Масаляйц Язэп, Кысы.
Банканес Александар, Вільня.

Block II, Abteilung 4.

Почобко Язэп, Лужкі.
Горткевіч Александар, Вільня.
Юхневіч Адам, Паляш.
Гульбіцкі Александар, Дэгенов.
Ардзінскі Васіль, Батвіно.
Роўда Іван, Вілек.
Тамашэўскі Міхаіл, Дубовае.
Палякоў Іван, Вільня.
Русак Іван, Едоўцэк.
Касельскі Іван, Дзімініц.
Рудштэйн Самуэль, Андрыш.
Сьвірскі Абэль, Вільня.
Кротт Дзем'ян, Кошанскі.
Елінской Лук'ян, Ковенск.

(Далей будзе).

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.